# НОЧ НА ГРАНІЦЫ

**Верш Л. КРУЦІЛАВА** **Малюнак А. ШАХРАЯ**

Гуляе над лесам
Шумлівы віхор.
Пайшоў пагранічнік
Адважны ў дазор.
Калышуцца злёгку
Вяршыні ялін,
Зялёныя лапы
Кудлатых галін.
І зоры, што часам
Між хмарак блішчаць,
Здаецца, сыходзяць
Мяжу вартаваць.
Праз ёлак гушчары,
Праз пні і карчы
Шагае дазорны
У цемень начы.



Залёг у сакрэце,
Стаў пільна сачыць,
І тут-жа надзейны
Таварыш ляжыць.
Таварыш калматы
Віляе хвастом,
Хутчэй яго бегаць
Не зможа ніхто.
Чуллівыя вушы
Як рупары два,
Схілілася крыху
На-бок галава.
Глядзяць вартавыя—
Нікога вакол.
Туман ападае
Расою на дол.
У момант сабака
Трывожна прылёг:
Пачуліся крокі
Няведамых ног.
Баец нагатове,
Ўзнімацца пачаў,
Мацней прыціскае
Прыклад да пляча.
Вось цень мільганула
З-пад ёлкі густой,
Ідзе, але грозна
Праносіцца: „Стой!"
Бандыт крутануўся,
Пачаў адступаць,
Ды ўжо не прышлося
Далёка ўцякаць—
Пружынай сабака
Падскочыў, дагнаў...
Павалены вораг
Ад злосці стагнаў...

. . . . . . . . . . . . . .

У летнюю спёку,
Ў зімовы мароз,
Ці дождж залівае,
Ці снежны занос—
Заўжды пагранічнік
На варце стаіць,
Совецкія межы
Як вока глядзіць.

# НІКАЛАЙ ШЧОРС





## ЗАГАД ЛЕНІНА

Зімой 1918 года нямецкія войскі занялі Украіну. З першых-жа дзён яны сталі грабіць украінскіх сялян, забіраць у іх апошні хлеб і жывёлу. Сяляне не маўчалі. Яны ішлі ў лясы і там далучаліся да рабочых партызанскіх атрадаў.



Адзін такі атрад арганізаваў комуніст-партызан Нікалай Шчорс. За некалькі дзён яго атрад вырас да 300 чалавек. Атрад рабіў смелыя налёты на нямецкіх захватчыкаў.

Атрад Нікалая Шчорса хутка стаў шырока вядомым. Імя адважнага важака партызан Шчорса ведалі не толькі на Украіне.

Улетку таго-ж года Шчорса выклікаў у Маскву Ленін.

Ленін пасадзіў яго каля сябе і стаў распытваць аб справах на фронце. Выразна, па-ваеннаму паведаміў Шчорс аб нямецкіх войсках, аб іх размяшчэнні, аб партызанскіх атрадах.

— Не перамагчы адным партызанам немцаў. Патрэбна рэгулярная Чырвоная Армія,— сказаў ён Ільічу.

Ільіч слухаў і чуць усміхаўся. Ён ужо даўно так і парашыў. А камандзірам першай чырвонаармейскай часці на Украіне павінен быць Нікалай Шчорс.

Шчорс моцна пацісну̌ў руку Ільічу і абяцаў што-б там ні было выканаць загад.

У раннюю восень са станцыі Унеча, змятаючы ўсе нямецкія заставы, рушыў Першы украінскі рэволюцыйны полк, імені Богуна *). Ім камандваў Шчорс.

## ДЫВІЗІЯ

Ужо ў першых баях нямецкія войскі былі разбіты. Тады штаб нямецкай арміі прыслаў да Шчорса дэлегацыю.

Тры афіцэры з'явіліся ў штаб Богунскага палка. Шчорс сядзеў за сталом. Каля яго стаялі справа і злева камандзіры. Шчорс не ўстаў і не запрасіў немцаў сесці. Нямецкі афіцэр сказаў:



— Вы трывожыце сваімі налётамі нашу армію. Ад імені нямецкага камандвання прапаную спыніць налёты. Іначай вы будзеце знішчаны.

Шчорс паглядзеў на яго і адказаў:

— Гэта не я вас трывожу, а вы трывожыце народ Украіны. Хто вас сюды зваў?

---

*) Богун—адзін з правадыроў казацкай рэволюцыі XVII века. Ён не раз смела разбіваў войскі польскіх паноў.



Шчорс устаў, камандзіры выпраставаліся. Немцы крыху адступілі, Шчорс сказаў:

— Перадайце вашаму камандванню, каб нямецкія войскі зараз-жа выбраліся з нашай зямлі.

А партызаны ішлі ды ішлі да Шчорса запісвацца ў яго полк, біцца за ўладу Саветаў. Прыходзілі старыя сяляне і казалі:

— Добры дзень, дзядзька Мікола,— а яму было ўсяго дваццаць тры гады.—Вось мы хочам у кавалерыйскі полк.

Шчорс сустракаў старых далікатна і ласкава. Ён пытаўся:

— А дзе вашы коні?

Старыя разводзілі рукамі. Коней не было. Гэта былі вясковыя беднякі. Тады Шчорс гаварыў:

— Нічога, возьмем коней у баю.

Партызаны ўсё ішлі ды ішлі. Так сабралася ў Шчорса за некалькі месяцаў цэлая дывізія—чатыры палкі—трыццаць сем тысяч чалавек. Байцы ў Шчорса насілі форму і чырвоную звязду на шапцы.

Шчорс працаваў без адпачынку. Ён вучыў вайсковай справе новыя чырвоныя палкі.

Ён сам прымаў і раздаваў зброю. Ён назначаў камандзіраў.

Дывізія Шчорса з баямі гнала немцаў. Шчорс гаварыў аб сваіх байцах:

— Богунцы не пытаюцца, колькі ворага, а толькі, дзе ён.

## БЕЛЫЯ БАНДЫ

Немцы адступалі з Украіны. Богунцы рыхтаваліся да новых вялікіх баёў з белымі бандамі контррэволюцыянера Петлюры.

Адзін раз пад горадам Бердзічавым Шчорсу паведамілі: Петлюра займае горад, нашы адступаюць.

Шчорс загадаў прычапіць вагон да паравоза. Не трацячы ні хвіліны, ён паімчаўся да Бердзічава. Ля вакзала было ціха. На рэйках стаяў поезд з чырвонаармейцамі, гатовы да адпраўкі. У пакінуты горад уваходзілі петлюраўцы.

Тады Шчорс схапіў у ад'ютанта ручны кулямёт і закрычаў:

— За мной! Не здадзім горада белым бандам.

Ён бег па пустых вуліцах Бердзічава. У руках яго быў кулямёт. За ім беглі байцы са штыкамі навыцяжку. Яны крычалі „ура“. А іх даганялі абознікі. І ўсе рынуліся на ворага.

Петлюраўцы адступілі. Шчорс захапіў іх гарматы, іх кулямёты і абозы.

Аднаго разу Шчорс ехаў па шасе ў аўтамабілі „Мутчэль“—ён захапіў гэту машыну ў баю з Петлюрай. Дарога ішла каля лесу. Раптам здалёк паказаўся грузавік. Шчорс вострым вокам разгледзеў на грузавой машыне сцяжок блакітны з жоўтым.

Значыцца, петлюраўцы.

Шчорс загадаў шоферу падрыхтавацца. Машыны параўняліся. У грузавіку стаялі петлюраўцы. З бакоў тырчалі дулы вінтовак. Адзін з петлюраўцаў падняў рэвальвер і закрычаў:

— Хто вы такія будзеце?

Раптам петлюраўцы ўбачылі на шапцы ў Шчорса чырвонаармейскую звязду.

— Комуністы!—закрычалі петлюраўцы.

У гэту хвіліну машына Шчорса рванулася наперад. Але ён утрымаўся на нагах і з сілаю шпурнуў ручную гранату ў петлюраўскі грузавік. Спачатку нічога не было чуваць, толькі вецер свістаў у вушах. Ззаду раздаўся грукат: гэта разарвалася граната.



Машына Шчорса імчалася так хутка, што пыл ззаду падняўся дымавой заслонаю. Шчорс зняў шапку, стукнуў ёю аб калена і рассмяяўся.

## СМЕРЦЬ НАЧДЗІВА

Дывізія Шчорса ішла з баямі па Украіне. Шчорс не спаў ночы. У цяжкую хвіліну, у самым небяспечным месцы з'яўляўся начдзів. Байцы перадавалі адзін другому: „Шчорс у цэпі!“ „Шчорс наперадзе!“ І твары байцоў весялелі.

30 жніўня 1919 года Шчорс выехаў на самы небяспечны фронт. Байцы ляжалі ў цэпі ля сяла Белашыцы. Вораг адкрыў моцны кулямётны агонь. Асабліва метка біў кулямёт каля чыгуначнай будкі. Ён прымусіў і Шчорса легчы. Кулі пстрыкалі і рвалі зямлю.

Шчорс павярнуў галаву і сказаў свайму намесніку Дубавому, які быў з ім:

— Ваня, глядзі, як кулямётчык метка б'е.

Шчорс узяў бінокль і глянуў на кулямётчыка. Раптам бінокль выпаў у яго з рук, галава апусцілася на зямлю.

Дубавы аклікнуў яго:

— Нікалай!

Ён не адказаў. Дубавы падпоўз да яго. Куля трапіла Шчорсу ў левы вісок і вышла ў патыліцу. Не прыходзячы ў прытомнасць, Шчорс памёр на руках у таварыша.

Вестка аб смерці начдзіва мігам разнеслася па цэпі. Разгневаныя байцы скрозь шалёны агонь ворага рынуліся наперад, перайшлі ў атаку і змялі ворагаў.

У цынкавай труне, у траурным поездзе таварышы павезлі загінуўшага Шчорса праз усю Украіну ў Самару і там яго пахавалі.

Мінула шмат год. На палях, дзе змагаліся слаўныя богунскія палкі, цвіце высокая калгасная пшаніца і калосяцца травы. Часта можна пачуць у тых месцах песні аб героі грамадзянскай вайны—Шчорсе.





Малюнкі А. ШАХРАЯ.

Апавяданне МІКОЛЫ ЛУПСЯКОВА

# ДАРАГІ ПАДАРУНАК

Валодзя доўга шукаў каня. Ён абхадзіў увесь выган—каня не было. За выганам пачыналіся густыя кусты. Валодзя пайшоў у кусты. Ён прыглядаўся ва ўсе бакі і ўважліва прыслухоўваўся. Незадоўга перад гэтым ён чуў тут стрэлы. Але стрэлы былі не навіна. Страляюць амаль кожны дзень. Да гэтага Валодзя прывык. У іхняй вёсцы ужо некалькі дзён стаіць узвод белапалякаў. Яны страляюць на вуліцы курэй, гусей, што папала. Страляюць і мірных людзей.

Раптам Валодзя пачуў перад сабой стогн. Ён ступіў некалькі шагоў і ўбачыў на зямлі невядомага чалавека. На галаве невядомага быў чырвонаармейскі шлем з пяціканцовай звяздою.

Валодзя вопрамеццю кінуўся дадому.

Маці вельмі зарадавалася.

— Каня шукаў?—запытала яна.

— Шукаў,—адказаў Валодзя.

— Дарэмна ты яго шукаў. Конь даўно дома: сам прышоў.

Тут толькі, схамянуўшыся, Валодзя шэптам сказаў матцы:

— Мама, там ранены чырвонаармеец...

— Дзе?

— На выгане, у кустах. Стралялі там нядаўна... Мамачка, хадзем забярэм яго...

На дварэ ўжо цямнела. Маці сказала аб усім бацьку, і яны ўтраіх позна ўвечары прынеслі раненага да сябе на сенавал.

На другі дзень чырвонаармеец слабым голасам расказваў, як ён ішоў у разведку і наткнуўся на варожую засаду. Па ім стралялі. Ранены, ён яшчэ доўга бег і нарэшце упаў. Далей ён нічога не памятаў.

Валодзя амаль увесь гэты дзень прасядзеў каля раненага. Пад вечар на сенавал прыбегла маці... Твар яе быў белы, як палатно.

— Палякі ў вёсцы,—сказала яна.—Вобыскі робяць, шукаюць некага.

Валодзя і маці доўга раіліся, пакуль знайшлі больш надзейнае месца для раненага. У хляве на гнілых бэльках ляжала некалькі дошчак. Тут была некалі столь, але маці разбурала яе і секла на дровы. Вось на гэтую столь сяк-так і зацягнулі раненага, прыкрыўшы яго старою леташняю саломаю...

Дайшла чарга і да іхняга двара.

Высокі, як жардзіна, афіцэр і некалькі салдат старанна абшукалі ўсё ў хаце, у дварэ, але нічога не знайшлі. Калі яны пайшлі ў хлеў, маці з Валодзем накіраваліся за імі. Бацькі на гэты час дома не было.

У канцы вобыска афіцэр заўважыў дошкі

на гнілых бэльках. Ён уважліва агледзеў іх і, хапаючыся за шчыліны ў сцяне, палез уверх. Маці і Валодзя акамянелі. Зараз афіцэр убачыць раненага чырвонаармейца і тады—канцы ім усім.

Яны стаялі і дрыжалі ад хвалявання і сполаху. Раптам Валодзя падаўся наперад і загаварыў:

— Дзядзечка, куды гэта вы лезеце? Бэлькі зусім гнілыя, абваляцца і прыдушыць могуць.

Афіцэр спыніўся, глянуў на хлапца, потым на струхнелыя бэлькі, штосьці падумаў.

Тут адзін салдат сказаў: —І сапраўды, ваша благароддзе, зляцець можна. Мы лепш абмацаем адсюль, а вам злезці-б...

Афіцэр пачаў злазіць, а салдат падняў вінтоўку і абмацаў штыхом дошкі. Штых трапіў у самую трухлявую частку дошкі.

— Нічога тут не будзе,— сказаў салдат.

Выходзячы з двара, афіцэр казаў:

— Чорт ведае, куды ён падзеўся? Крывавы след ад выгана вёў у гэтую вёску...

Праз некалькі дзён чырвоныя прышлі ў вёску і ранены разам з усімі вышаў іх сустракаць, а яшчэ праз дзень чырвоныя рушылі далей за белымі. Разам з імі пакінуў вёску і ранены чырвонаармеец. К гэтаму часу ён самастойна ўжо хадзіў, але быў яшчэ вельмі слабы. На адыходзе ён шчыра падзякаваў усіх і падарыў Валодзю бліскучы кішэнны гадзіннік.



Усе хлапцы-аднагодкі зайздросцілі Валодзю, а ён казаў:

— Гэты падарунак мне даражэй за ўсё, я буду берагчы яго, як сваё вока.

## ДА МАЛЮНКА НА ВОКЛАДЦЫ

**Многія піонеры актыўна рыхтуюцца да абароны краіны. Яны вучацца метка страляць, вывучаюць вайсковую справу. Рабята пагранічных раёнаў уважліва прыглядаюцца да кожнага падазронага незнаёмага чалавека. Звычайна яны не памыляюцца: западозраныя аказваюцца замежнымі шпіёнамі.**

**Некаторыя піонеры гадуюць для Чырвонай Арміі паштовых галубоў, другія— рыхтуюць чацвераногіх памочнікаў для пагранічнікаў.**

**На вокладцы—піонеры з сабакамі-аўчаркамі, якіх яны вучаць вайсковай справе.**

ЯКУБ КОЛАС



# ТРЫВОГА

I.

Ужо два тыдні, як над сялом павіс нейкі страх і трывога, чаканне чагось страшнага і немінучага *). А што паслужыла першаю прычынай,—дык гэта вялікая суш. Як толькі пачалася вясна, ніводнага не было дожджыку. Пасеянае збожжа ў палях і агароды гібелі. На гэтым грунце і пайшлі ўсялякія гутаркі. То тут, то там на вуліцы збіраліся мужчыны і жанчыны і разбіралі прычыны, чаму няма дажджу, тут-жа расказвалі розныя страшныя здарэнні апошніх дзён. А нядаўна пастушкі бачылі нібы на полі страшную ваўчыху з добрага каня ростам.

На ўсё сяло найбольшым трусам быў Мікола Гляк. Такога палахлівага і баязлівага чалавека, як ён, цяжка знайсці. Баіцца ён ваўка, баіцца могілак,—усяго баіцца. Хоць вы азалаціце яго, ніколі ён не пойдзе адзін праз лес. А калі бывала захопіць яго ў дарозе шэрая гадзіна, то каню—бяда! І ўжо яго конік сам ведае: чуць толькі пачне змяркацца, ён не чакае, пакуль Мікола будзе яго тузаць лейцамі і паддаваць ахвоты пугаю, а, пырхнуўшы для смеласці, выгінаў сваю худую спіну з куртатай грывай і хутка драбязіў таўставатымі ножкамі. А калі Міколаю даводзілася ў такі час ісці пехатою, дык ён так шпарка ішоў, што прыходзіў дадому ўвесь мокры.

Ішоў ён раз вечарам. Да сяла яшчэ было вярсты тры. На небе пачалі ўжо ўзыходзіць першыя зоркі. Раптам з-пад ядлаўцовага куста вылецела птушачка. Мікола знячэўку стаў, і з яго грудзей, проці яго волі, вылецеў жаласны і доўгі крык:

— А-а-ай!

II.

Не спалася ў гэту ноч Мікалаю. У хаце з ім быў толькі адзін Міхаська, яго сын, хлопчык гадоў шасці. Жонка яшчэ ўдзень

*) Апавяданне гэтае напісана даўно, да рэвалюцыі. У ім цікава расказана пра забабоны і страхі, якія могуць здавацца несвядомым і баязлівым людзям. (Рэд).

пайшла да хворай сястры. Пакуль сяло гаманіла, Мікола сяк-так трымаўся і баракаўся са страхам, не даваў яму надта вялікай аблады над сабой. Сон-жа, як на злосць, ніяк не замыкаў яму вочы. Праўда, удзень Мікола даў храпака і выспаўся. „Трэба кінуць гэты паганы звычай спаць удзень“,— думаў ён і хаваў галаву пад коўдру, плюшчыў вочы, спрабаваў нават храпці, але, храпануўшы раз, ён спалохаўся свайго храпу і зараз-жа перастаў. Тымчасам сяло моўкла. Ноч усё цяжэй і глыбей насядала на зямлю.

— Міхась! Міхаська!

— Га.

— Ты ўжо спіш, сынок?



— Сплю,— чуўся з запечка голас Міхася.

— Можа-б ты, сынок, збегаў да цёткі ды паклікаў-бы матку? Скажы—тату нешта нядобра зрабілася.

— Ого! Я баюся!

— Дурань ты! Чаго баяцца? Вось сказаў!—стаў бацька высмейваць страх у сына, а сам увесь калоціцца ад страху.

— А як спаткаю ваўчыху,—сказаў сын.

— Якую ваўчыху? Што ты пляцеш? Сасніў ці што?

— Сасніў! Ці-ж не чуў хіба?

— Дзе? Што?—спытаў бацька апаўшым голасам, а сам пачуў, як уся скура як-бы стала сцягвацца, каб вылузаць яго цела.

А Міхаська стаў расказваць пра страшную ваўчыху, і расказаў гэта такім тонам, што смешна было сумнявацца ў няпраўдзе.

— Брэшуць,—чуць не плачучы, сказаў бацька.

— Даль-бог, татачка, праўда! Вось, тата, не дасі веры! Спытайся, у каго хочаш.

Але тут у Міколы і язык адняўся. Ён баяўся зірнуць у акно, бо быў ўпэўнен, што ў акне ўжо тырчыць страшная галава ваўчыхі.

Памаўчалі.

— Міхаська! — зноў аклікнуў бацька сына.—Паглядзі ты на прымурачку мой капшук з тытуном і прынясі мне яго, сынок: нешта закурыць захацелася.

Гаворачы так, Мікола думаў залучыць да сябе сына і палажыць з сабою,—усё-ж весялей, як чуеш каля сябе жывую душу.

— Даль-бог-жа, татачка, не ўстану! Зарэж мяне, не падымуся: я чуў— нешта шалпатала ў качэргах!

— Цьфу, брыда!—вырвалася ў Міколы. Цяпер ён калаціўся, як асінавы ліст, і мусіў трымаць счэмленую губу, каб не ляскалі зубы. Але быў такі момант, калі сіла шчамлення перарвалася і зубы так застукалі, што Мікола ўжо не мог іх стрымаць.

А сыну здалося, што гэта нехта бразгае

ў вакеніцу. Ён падняў галаву і абапёрся на локці.

— Тата! — голасам, поўным перапуду, аклікнуў цяпер сын бацьку:—Нехта трасе вакеніцу!

Ці з вялікага страху, ці ад бульбы, якую бацька еў вечарам, толькі ў жываце ў яго як забурчыць! Як-бы хто ў трубу затрубіў.

— Ай! В-в-в!—нема загукаў на ўсю хату Мікалай, ды так страшна і дзіка, што сыну здалося, што ўжо бацьку душаць, і ён з свайго кутка як залякоча!

А бацьку ліха ведае што здалося.

— Ай! тата!

— Г-г-гу!

І такі справілі кірмаш, што хата трэслася.



Мікола ўсхапіўся з пасцелі як непрытомны. Ён нічога не помніў, звалок з шастка жончыну спадніцу і накінуў яе на плечы. Бягучы да дзвярэй, вырваў з коміна заткала і выскачыў на двор. Каля яго, уляпіўшыся за зрэбныя порткі, стаяў Міхаська. А на гэты час праходзіла тут варта. Пачуўшы крык, вартаўнікі таксама перапалохаліся. Зірнуўшы туды, адкуль нёсся крык, убачылі агонь: Мікалаева суседка, Лея, пякла булкі і вышла з лучынай у сені.

— Пажар!—загаманіла варта.

Адзін з вартаўнікоў кінуўся на званіцу і давай жарыць у званы. Абудзілася сяло, падняўся крык, гвалт. З усіх двароў забрахалі сабакі.

— Хто гарыць? Хто гарыць?—пыталіся, бягучы, людзі.

Мікола Гляк высунуўся з двара на вуліцу з заткалам у руках і з жончынай спадніцай на плячах.

Убачыўшы Мікалая ў такой вопратцы і з заткалам у руках, цэлая чарада сялян адкінулася назад і з крыкам: „Чорт! Чорт!“—пусцілася наўцёкі.

— Стойце, браткі! Гэта-ж я!—загаласіў Мікалай і пабег за імі з заткалам, а за ім і Міхаська. Але на вуліцы ўжо нікога не было. Апамятаўшыся, Мікалай узяў за руку сына і сказаў:

— Сынок, хадзем дахаты! І маўчы, нікому нічога ані шэпт!

А на заўтра яшчэ большая трывога павісла над сялом.




# Хвасты

## АФРЫКАНСКАЯ КАЗКА

Быў час, калі ў звяроў хвастоў не было, не было чым адмахнуцца ад мух ні каню, ні карове, і вавёрка не магла так спрытна скакаць з дрэва на дрэва, з галінкі на галінку. І парашылі звяры, якія былі хітрэйшымі, набыць хвасты. Паклікалі яны сарок-белабок і сказалі:

— Вы, сарокі-белабокі, ляціце па гарах, па далінах, па лясах, па лугах, паклічце ўсіх звяроў. У такі-та дзень, як толькі сонца ўзыйдзе, у такім-та месцы хвасты будуць раздаваць.

Паляцелі сарокі ва ўсе бокі, трубы вялікія ўзялі і закрычалі:

— Вы, звяры лесавыя, палявыя, лугавыя, вадзяныя, прыходзьце да вялікіх дубоў на ўсходзе сонейка ў такі-та дзень хвасты атрымліваць.

Усе замітусіліся.

— А што такое хвасты? А нашто яны? Для чаго яны?

А лісіца кажа:

— Калі даюць, трэба браць,—пасля разбярэмся, навошта яны.

Вось у вызначаны дзень падаліся звяры, хто паўзком, хто бягом, хто скокам, хто лётам—усе на палянку да лесу, дзе хвасты будуць раздаваць.

Маленькі палявы зайчык пачысціў сваё футра, лапкамі памыўся, таксама сабраўся па хвосцік. Высунуў галаву з норкі, а дожджык яму кап-кап, ды проста на нос. Напалохаўся зайчык: „заб'е мяне дожджык!" і схаваўся зноў у норку. Сядзіць і чуе: туп-туп-туп! трашчаць дрэвы, шуміць трава. Відаць, касалапы ідзе. Так і ёсць.

— Дзядулька мядзведзь,—просіць зайчык,—будзеш атрымліваць сабе хвост, папрасі і мне хоць які-небудзь.

— Добра, калі не забудуся.

„Стары ён,—думае зайчык,—забудзецца. Трэба яшчэ каго-небудзь папрасіць".

Чуе: туп-туп-туп! Дробны хмызняк хрусціць. Відаць, воўк бяжыць. Так і ёсць.

— Дзядзечка воўк, будзеш сабе хвост атрымліваць, атрымай і мне хоць які-небудзь.



— Добра, калі астанецца.

„Скупы воўк,—думае зайчык,—калі і дастане, не дасць. Трэба яшчэ каго-небудзь папрасіць".

Чуе: туп-туп-туп! Ледзь-ледзь трава калышацца—лісічка бяжыць.

— Лісічка-сястрычка, дастань мне хвосцік.

— Хвосцік? Які-ж табе хвосцік?

— Хоць які-небудзь.

— Ну, добра, выберу табе пад колер футра,—ты-ж зараз шэранькі?

— Шэранькі.

Хоць і пасля ўсіх ішла лісічка, ды ведае яна самыя кароткія сцежкі. Прыбегла раней за ўсіх.

Хвастоў тут процьма: вісяць і валасатыя доўгія, і голыя з кутасамі, і з кіпцюром на канцы, і як вяровачкі, і як чарвячкі, і пушыстыя, залацістыя, і белыя, і чорныя, і рудыя, і простыя, і выгнутыя, і ўсякія-ўсялякія.

У звяроў галовы закружыліся. Першая апамяталася лісіца. Выбрала сабе хвост пушысты, залацісты, мяккі.

— Мне вось гэты,—паказала яна.

Ёй гэты хвост і далі. Ходзіць лісіца, хвастом круціць, цешыцца.

Топ-топ-топ! Конь бяжыць. Падбег, выбраў сабе хвост мятлою.

— Вось дык хвост! Да самага носа хопіць абмахнуцца,—цяпер, мухі, сцеражыцеся! І пайшоў вельмі здаволены.

І ў каровы добры хвост, і ў ваўка нядрэнны: і пушысты, і моцны, і тоўсты. А вавёрачка такі атрымала, што і рулём служыць, калі яна скача, і коўдрай, калі спіць. Слон таптаўся, таптаўся, усім лапы адціснуў, і калі падышоў, дык астаўся хвост—шнурочак са шчацінкамі. Нездаволены слон, нос уніз апусціў, ды так з таго часу і ходзіць хобатам уніз. Мядзведзь спазніўся. Дарогаю на мёд натрапіў. Захацелася мёду паесці—пчолы давай яго кусаць! Прышлося адбівацца,—вось ён хвост добры і пратраціў; астаўся яму кавалачак скуры, абросшы шэрсцю. Добра—хоць чорны.

— Ну, усе?—пытаюцца адзін у другога звяры.

— Не, не! Я яшчэ не атрымала,—хрукае свіння. Відаць, заваляласяя яна дзесьці ў балоце і забылася пра хвасты. Ды парасяты напомнілі, — як запішчаць усе дванаццаць адразу: „хвосцікаў хочам, хвосцікаў хочам!“ Прышлі па хвосцікі, а там хвасты толькі як чарвякі асталіся—тоненькія—і адзін тоўсценькі. Як убачылі парасяты, запішчалі. „не хочам такіх хвастоў, не хочам“! А што было рабіць





свінні, — другіх ужо няма. Яна ўзяла гэтыя хвасты і закруціла іх калечкамі. „Вось у нас і будуць лепшыя, чым ва ўсіх!“ З таго часу ва ўсіх парасят хвасты кручком.

А палявы зайчык сядзіць у сваёй норцы і чакае, калі пойдуць назад звяры і хвосцікі яму прынясуць. Чуе, мядзведзь ломіцца.

— Дзядулька мядзведзь! Прынёс мне хвосцік?

— Адчапіся! Самому вунь які абрывак дастаўся.—І пайшоў.

Чакае зайчык. Воўк бяжыць.

— Дзядзечка воўк! Прынёс мне хвосцік?

— Які там яшчэ хвосцік? Я сабе ледзь захапіў вось таўсцейшы ды калмацейшы...— І пайшоў.

„Ну, ужо лісічка, напэўна, не падманіць...

Бяжыць лісічка.

— Лісічка - сястрычка, прынесла мне хвосцік?

— Не да цябе мне там было! Я і не ўспомніла. Ты паглядзі, які я сабе дастала: і мяккі, і пушысты, і залацісты...

І давай круціць сваім хвастом перад носам у зайчыка. А зайчык нават заплакаў ад крыўды—усе забыліся. Ляжыць і лапкамі закрыўся.

Раптам чуе зайчык: „гаў-гаў-гаў! Ффр, пффр!“ Выглянуў, а гэта кот з сабакам б'юцца. Сабака свой хвост хваліць, а кот свой—ды і пасварыліся. Сабака як хопіць ката за хвост, ды самы вось кончык і адкусіў. Кот на дрэва скок! А кончык катовага хваста закаціўся ў зайчыну норку. Схапіў яго зайчык і прырасціў да таго месца, куды трэба.

А кот з сабакам і да гэтага часу ўсё сварацца.

# КІСЕТ

**Апавяданне дзяткора К. КЛЮЧЫНСКАГА**

Дзядзька Мацей сабраўся ісці на работу. Перад адыходам ён памацаў у кішэні, здзівіўся і сказаў сам сабе:

— А дзе-ж кісет?

Ён паглядзеў у адно месца—няма, паглядзеў у другое—няма.

— Памагайце шукаць!—закрычаў ён на жонку і дачку.

Дзядзька Мацей пачаў злаваць. Без кісета-ж нельга ісці на работу: не будзе чаго закурыць!

Усё ў хаце перакапалі—няма кісета.

У запечку дзядзька Мацей нарваўся на ката. Кот спаў сабе спакойна і зусім не клапаціўся, відаць, аб гаспадарскім кісеце. Дзядзька Мацей схапіў ката і скінуў далоў, каб не замінаў. Глянуў ён, аж там, дзе ляжаў кот, ляжыць яго кісет. Кот спаў на кісеце.

— Ах, недавярак ты гэтакі!—закрычаў дзядзька Мацей.—Гэта-ж праз цябе мы ўсё ў хаце перакапалі!

Дзядзька Мацей зняў папружку ды хацеў спагнаць злосць на кату. Кот убачыў гэта ды на печ. Дзядзька за ім. Кот да дзвярэй. Тут дзядзька пачаў хвастаць яго папружкай. Кот бачыць, што не пярэліўкі, і з усяго размаху скокнуў у акно. Зазвінела шыба, і кот выскачыў на вуліцу. Тут толькі ён упэўніўся, што небяспека мінулася і можна супакоіцца.

Кот пачаў прылізваць сваю шэрсць, пакудлачаную папружкай, але неспадзявана на яго накінуўся сабака. Кот схамянуўся і пабег.

У садку каля акна стаяла дрэва. Кот, доўга не думаючы, скокнуў на дрэва. Тут ён аглянуўся навакол і заўважыў на страсе вераб'я. Кот раптам скочыў на страху. Верабей узняўся і пераляцеў на тое дрэва, дзе раней сядзеў кот. Кот завярнуўся і скокнуў зноў на дрэва, але няўдала. Абарваўся, не змог утрымацца і скінуўся вобземлю. Сабака, які ўвесь час сачыў за катом, кінуўся на яго і разарваў на месцы.

А праз нейкі час шкадаваў дзядзька Мацей свайго ката, бо ў хаце завялося шмат мышэй, якія нарабілі нямала шкоды і не давалі яму спакою.

# ЯК ЖЫЛІ СЯЛЯНЕ РАНЕЙ

**Верш дзяткора ГАЛУШКОВА Э.**

Ад зары і да зары
Рабілі на пана,
Галадалі заўсягды,
Жыць было пагана.

Песні сумныя яны
Спявалі у полі
Аб цяжкім жыцці сваім,
Аб няшчаснай долі.

Як дамоў яны ішлі,
Рукі ў іх балелі,
Ногі слухаць не хацелі,
Проста так і млелі.

Самі плюшчыліся вочы,
Мучыла знямога.
Моцна спалі яны ўночы,—
Не ўзбудзіць нікога.



# ПРА МАТЫЛЯ І ВАСІЛЯ

Апавяданне М. ЦЭЛЕША

Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА

Я і хлопчык Васіль праводзілі выхадны дзень каля рэчкі. Дзень выдаўся цёплы, ясны. На дрэвах спявалі птушкі. У паветры, пералятаючы з краскі на краску, гудзелі чмялі і пчолы. Мітусіліся матылькі—белыя, жоўтыя, цёмнакрылыя.

Я вудзіў на муху, поверх вады, яльчыкаў і дробных галавенчыкаў, а Васіль дастаўляў мне мух, бегаючы па лугу і накрываючы іх лёгкай празрыстай сетачкай. У абодвух быў занятак. І абодвым было прыемна.

Раптам Васіль, які лічыў сябе таксама рыбаловам і ўвесь час гаварыў „мы ловім рыбу“, закрычаў:

— Тата! Тата, а матыль табе не трэба?

— Матыль? Лаві сам на матыля,—адказаў я, каб хутчэй адчапіцца.

Мне нельга было адвярнуцца: рыба дужа мітусілася каля мухі.

Васіль так і зрабіў. У яго была свая вудачка. На вудачцы быў лёгкі тонкі шнур з невялічкім кручком. Зачапіўшы сяк-так матыля на кручок, Васіль закінуў сваю вуду. Матыль паплыў па вадзе, варушачы крыллямі і лахматымі ножкамі. І ўслед за тым каля яго з'явіліся зграі рыб. Тут былі ўклейкі, яльцы, плоткі, галавенчыкі і пад'язікі. Усе яны снавалі ўзад і ўперад, падплывалі пад матыля, штурхалі ў яго насамі і зноў знікалі. Вада, здавалася, аж кіпела кругом.

А Васіль, прысеўшы на цыпачкі, глядзіць і чакае, калі яму трэба цягнуць. Раптам матыль знік. Няма матыля! Адарваўся ён ці што? І толькі ён хацеў спытаць у мяне, што за штука, як я паклікаў яго самога да сябе. Васіль уваткнуў сваё вудзільна ў бераг і прыбег да мяне. Потым, зрабіўшы

тое, што я хацеў, ён зноў вярнуўся да сваёй вудачкі.

Але не паспеў Васіль узяцца за вудачку, як яе моцна нешта шмарганула ў ваду. Што такое? Васіль аж спужаўся. Аглянуўся кругом. „Хаця-б вудачку вярнуць!“—падумаў ён. Узяўшыся ямчэй, ён пацягнуў вудачку да



сябе. І тады шнур яшчэ мацней пабег пад ваду. Потым неяк закруціўся і паімчаў пад бераг. Кончык вудзільна сагнуўся. Нібы гіра цяжкая да вудзільна падвешана; яна коціцца некуды ўніз і цягне за сабою шнур. Васіль ухапіўся за вуду абедзвума рукамі.

— Тата, нешта цягне вуду ў ваду!—крыкнуў ён.

— Глядзі, не ўскоч хаця ў рэчку!—сказаў я, перасцерагаючы малога і потым дадаў:—А ты цягні да сябе! да сябе...

Васіль, мусіць, добра паднатужыўся і пацягнуў вуду з вады, бо ў гэты-ж момант пачуўся яго лямант.

— Тата, тата! рыба вялікая... ай, яй, ай... вялікая!

Я кінуў сваіх мух, сваю вуду і яльчыкаў з галавенчыкамі і пабег да Васіля. Калі я прыбег, на траве падскакваў уверх вялікі, прыгожы акунь. А Васіль, захоплены ўдачай, стараўся схапіць яго рукамі, але ніяк не мог. Рыбіна падскаквала, вырывалася, біла Васіля шырокім хвастом па носе і калола яго сваімі вострымі шыпамі, што на грэбені і плаўніках.

Калі я пачаў здымаць з кручка акуня, дык убачыў, што ў яго з рота відаць хвост другой рыбы? Як гэта магло здарыцца? Я дастаў гэтую рыбу. У роце ў яе быў кручок з матылём.

Тады мне ўсё стала ясна. У той час, як я паклікаў да сябе Васіля, уклейка схапіла кручок з матылём. Трэба было цягнуць, але Васіль пабег да мяне. Уклейка асталася на вудачцы. У гэты момант блізка тут важна прагульваўся вялікі акунь. Убачыўшы ўклейку, ён праглынуў яе разам з кручком.

Вось так у Васіля ўзялася рыба і на матыля.





# ПОП, ПАН і ХЛОПЕЦ СЦЯПАН

## КАЗКА

Жыў некалі багаты пан. Меў ён шмат зямлі, лесу і вялікіх маёнткаў. Сам ён ніколі нічога не рабіў. На пана працавалі прыгонныя людзі. Яны кармілі і паілі пана.

Пан быў вельмі злосны і ўвесь час здзекаўся з людзей. Больш за ўсіх ён нё любіў аднаго хлопца. Гэтага хлопца звалі Сцяпанам.

Аднаго разу пан моцна зазлаваў на Сцяпана і парашыў яго пакараць.

Вось ён пасадзіў яго ў мяшок, завязаў лыкам і павёз на рэчку ўтапіць. Даехаў пан да маста, скінуў з воза мяшок і хацеў ужо кінуць у ваду. Але тут якраз пан убачыў, што побач ідуць дзве прыгожыя паненкі з суседняга фальварка. Падышоў пан да іх, прывітаўся ды пытае:

— Куды-ж гэта вы, ягамосці?

— А мы да вас, пан Вінцэнт, у госці.

— А, калі так,—сказаў пан,—то дазвольце вас падвезці да майго маёнтка. Сядайце, калі ласка, на мой вазок.

Паселі паненкі і разам з панам паехалі ў маёнтак, а Сцяпан у мяшку астаўся адзін на мосце. Ляжыць ён і думае сабе, як-бы гэта яму развязаць мяшок і ўцячы. Думае ён сабе, ды думае, аж чуе, што па дарозе грукацяць калёсы. А гэта ехаў поп на пары вараных коней. Едзе ён і сам коней паганяе. Уз'ехаў на мост, бачыць—мяшок ляжыць.

— Цікава,—кажа поп,—што-ж тут у гэтым мяшку? Можа жыта ці пшаніца. Няйначай, нехта вёз у млын і згубіў па дарозе.

Пачуў Сцяпан, што нехта падыходзіць да яго, ды кажа, каб было чуваць:

— Я не ўмею ні чытаць, ні пісаць, а мяне хочуць за караля абраць!

Пачуў гэта поп і зайздрасць яго апана-

вала. Падышоў ён да мяшка, развязаў ды кажа:

— Я ўмею і чытаць і пісаць. Вылазь, чалавеча, з мяшка, а я сам тут сяду, няхай мяне абяруць за караля. Узрадваўся Сцяпан, вылез з мяшка, расхінуў яго ды кажа:

— Лезь, бацюшка, ды хутчэй, а то позна будзе. Улез поп у мяшок. Сцяпан моцна завязаў яго, а сам сеў на воз ды пугаю па конях. Толькі і бачылі яго.

Неўзабаве прыехаў пан і скінуў мяшок з папом у ваду.

Пасля гэтага паехаў пан у суседняе мястэчка на кірмаш. Глядзіць, аж супроць яго стаіць Сцяпан і коні прадае. Тут пан аж вочы вытрашчыў і сам сабе не верыць: Сцяпан гэта, ці не Сцяпан?

Падышоў ён бліжэй ды пытае:

— Няўжо гэта ты жывы астаўся?

— А вось, як бачыце, панок,—адказаў Сцяпан.

— А дзе-ж ты сабе такія коні дастаў?

— На тым свеце, панок! Там усё ёсць, чаго зажадаеш: залатыя горы, малочныя вазёры, мармуровыя замкі, срэбраныя ганкі, а коней там, дык і не пералічыць.



Здзівіўся пан ды кажа:

— Прадавай, Сцяпан, коні, садзіся са мною на воз, ды паедзем на мост. Там я ўлезу ў мяшок, а ты мяне кінеш у ваду, пабяру там усё багацце.

Прадаў Сцяпан коні і сеў на воз разам з панам.

Прыехалі. Улез пан у мяшок ды кажа:

— Ну, Сцяпан, варушыся!

— Добра,—сказаў Сцяпан, завязаў туга мяшок і скінуў пана з моста ў ваду. А сам сеў на воз, свіснуў на коней і паехаў.

Запісала **Канстанцыя Гудзіменка.**

Літ. апрацоўка **Я. Герасімовіча.**






**П. ЛЕВАНОВІЧ**

*АПАВЯДАННЕ МАТРОСА*

Я раскажу пра адзін цікавы выпадак, які здарыўся са мною ў Іспаніі ў горадзе Севілье.

Быў цёплы дзень. Сонца так пякло, што нават лісты павялі на дрэвах. Мне вельмі захацелася піць. Я зайшоў у дом, дзе прадавалі пітво. Сеў за стол. Мне падалі квасу. Толькі я пачаў налівацьшклянку, як на маю руку села муха. Я і не заўважыў-бы яе, але ўслед-жа адчуў, як зусім нечакана нешта дакранулася маёй рукі. Тады я павярнуўся і ўбачыў нейкую дзіўную жывёліну. Цела тонкае, крыху сплюснутае з бакоў, з вострым брыжастым хрыбтом, вісіць на доўгім хвасце, зачэпленым на перакладзіне з бамбука. А галава ў яе таксама сплюснута і мае на патыліцы шлём з грэбенем. Я вачэй не зводжу, думаю, ці не ўкусіць яна мяне збіраецца. Потым устаў з-за стала і проста іду на гэта страшыдла. Ступіў шаг, і што-ж вы думаеце? Надзьмулася жывёліна, зрабілася круглай, ды як зашыпіць, нібы змяя. Тут да мяне падышоў афіцыянт, што падносіў квас, і растлумачыў:

— Біць гэтую жывёліну не трэба, яна зусім не робіць шкоды, і вы яе не палохайцеся.

Я зноў сеў за стол і пачаў ужо грунтоўна разглядаць яе. Калі яна была надзьмутая, дык зрабілася вельмі цікавай. Скура расцягнулася, відаць былі рабрыны, а цела стала такім празрыстым, што праз яго я ўбачыў грудную клетку. Галава на кароткай шыі з дзвюма вокамі пакрыта таўстымі павекамі, падобнымі на шкло гадзінніка. Як потым я даведаўся, вочы яе маюць тую асаблівасць, што адначасова могуць глядзець узад і ўперад, уверх і ўніз. Завуць гэтае страшыдла—*хамелеёнам.*

Калі мы пакідалі Севілью, мне расказалі шмат чаго цікавага пра хамалеёна. Наш карабельны качагар расказаў мне пра сваё знаёмства з хамелеёнам. Ён быў першы раз на востраве Мадагаскары. Вылез на бераг і пайшоў пацікавіцца жыццём. Праваднік

паказаў яму дрэва, на якім сядзела тры хамелеёны. Прычэпліваюцца яны да дрэва звычайна ўсімі чатырма нагамі і нават хвастом. У такім становішчы яны падобны на нейкія нарасты на ствале дрэва. Так сядзяць яны цэлы дзень нерухома, таму іх цяжка заўважыць,—ні то жывёла, ні то нараст на дрэве. Раніцай скура хамелеёна мае жаўтаватую афарбоўку, удзень-жа ад галавы да хваста выступаюць круглыя кропачкі цёмна-зялёнага колеру, а ўздоўж хрыбта з'яўляюцца цёмныя цені. Калі качагар закрануў палкай аднаго з хамелеёнаў, скура яго зрабілася зеленаватай, жывот блакітным, а кропачкі на скуры зрабіліся чорнымі. Такая дзіўная жывёліна моцна кусаецца, але ўкусы яе слабыя, яны не прыносяць ні ран, ні нават болі. Толькі скура пры гэтым змяняе афарбоўку.

Той хамелеён, якога я бачыў у Севільі, быў прыручаны і знаходзіўся ў пашане. Ён лавіў языком мух, высоўваючы яго амаль на дзесяць сантыметраў ад сябе. Такім чынам ён злавіў і тую муху, што села на маю руку.

Я ўспамінаю гэты выпадак заўсёды, калі чую назойлівае гудзенне мух.

— Вось, каб сюды хемелеёна, мухі-б у нас не разводзіліся.

Але хамелеёны жывуць толькі ў цёплых краінах.



# РЭЧКА

Птушкі шчабечуць і песні спяваюць,
Гоман навокал стаіць.
А каля куста, над рэчкай срабрыстай,
З вудачкай Янка маленькі сядзіць.

Любіць ён рэчку, як родную матку,
Любіць купацца у ёй і ныраць.
Любіць за рэчкай у лесе зялёным
Ягады ў кошык збіраць.

Дзяткор **МІХАЛЕВІЧ ГЕЛЬКА.**

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЛІПЕНЬ 1937 г. № 7

# ПРЫГОДА З СІГАРАМІ

Малюнкі Н. МАЛЕВІЧА



— Слухай, Морыц! Вазьмі, браток, гэтую каробку і завязі вунь таму аслу—шупо*). Ён мне напакасціў нямала. Скажы, што гэта падарунак ад твайго гаспадара-фабрыканта...

*) Шупо—клічка нямецкіх паліцэйкіх.



— Пан паліцэйскі! Мой гаспадар шле вам прывітанне за добрую службу і вось гэтую каробку дарагіх сігар!.. Яны праясняюць мазгі і супакойваюць нервы...



— Гм... Вось гэта сігары! Такіх сігар напэўна не курыў і мой начальнік. Ну і пачастую яго, як прыдзе правяраць мой пост! Вось падаруначак!



— Чорт вазьмі! Што вы такое трымаеце на пасту! Адкуль у вас гэтая каробка? І чаго гэта вы ўхмыляецеся, як дурань?



— Гэта сігары, пан начальнік! Самыя дзіўныя, лепшых не бывае. Гэта падарунак ад фабрыканта... Дазвольце вас пачаставаць, пан начальнік?



І шупо з прыемнасцю раскрыў каробку перад носам свайго ласага начальніка...

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА. Адрас рэдакцыі: Менск, Дом Друку.

Друкарня імя Сталіна. 16.500 экз. Зак. № 916. Галоўлітбел № 424.